2 Дождь поливает, а водоканал собирает

4 Продовольственная безопасность

5 Лёс дачкі пагранічніка



Газета Слонімская

Газета заснавана ў 1938 годзе. Адноўлена ў 1997 годзе.





№30 (163). 20 — 26 ліпеня 2000г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік http://gs.promedia.minsk.by Кошт 85 руб.

ЗДАРЭННІ

## Раскрыта кватэрная кража

**Міліцыя раскрыла кватэрную кражу, якая адбылася ў Слоніме на Чыгуначнай вуліцы паўтара месяца назад.**

Тады невядомы скраў з кватэры відэамагнітафон і фотаапарат. Цяпер па гэтай справе затрыманы раней судзімы гараджанін.

## Бойка ў Кастровічах

**Трагедыяй закончылася высвятленне адносін паміж мужчынамі ў мінулую суботу ў вёсцы Кастровічы Слонімскага раёна.**

Падчас распіцця спіртных напіткаў пачалася бойка, у выніку якой пацярпеў 72-гадовы мужчына. Ад атрыманых цялесных пашкоджанняў ён памёр.

## Угналі аўтакран

**На мінулым тыдні непаўналетнія ўгналі аўтакран у вёсцы Азярніца Слонімскага раёна.**

На шчасце, у машыне неўзабаве скончылася паліва, і юнакі не паспелі нарабіць бяды.

## Загінуў чалавек

**Неасцярожнасць пры курэнні стала прычынай смерці 45-гадовага слонімца Васіля С.**

Пажар на Чырвонаармейскай вуліцы пачаўся ўначы. Пажарныя, якія прыбылі на месца здарэння, знайшлі труп гаспадара дома ў ваннай. Праўдападобна, ён там ратаваўся ад дыму, але ўсё ж задыхнуўся.

Алег ТАЧОНЫ

# Ідзе адпраўка ў войска прызыўнікоў





Фота Віталя ГІЛЯ

**У аўторак, 18 ліпеня, у беларускае войска адпраўлялася 48 прызыўнікоў са Слоніма і Слонімскага раёна.**

У гэты дзень каля Дома афіцэраў было шматлюдна. Правесці хлопцаў у войска прыйшлі іх бацькі, бабулі, дзяўчаты. Было шмат слёз, хоць і ішлі прызыўнікі служыць у свой родны Слонім...

Усяго за вясенні прызыў запланавана накіраваць у войска са Слонімшчыны 224 чалавекі. З іх 110 застануцца служыць у Слонімскай гвардзейскай механізаванай брыгадзе.

Плануецца, што ў нядзелю, 30 ліпеня, у 10 гадзін у слонімскай брыгадзе будзе праходзіць прысяга маладых вайскоўцаў.

НАВІНЫ

## Завяршыўся тэатральны сезон

**Калектыў Слонімскага беларускага драматычнага тэатра завяршыў свой тэатральны сезон і з 22 ліпеня ідзе ў водпуск.**

Праз месяц тэатр адновіць сваю творчую дзейнасць. Ён пакажа дзве новыя дзіцячыя прэм'еры — спектаклі "Дзень нараджэння" (рэжысёр Васіль Сявец) і "Зімовая казка" (рэжысёр Мікалай Варвашэвіч), а таксама сцэнічныя пастаноўкі для дарослых.

Сяргей ЧЫГРЫН

## УСЁ ДЗЕЛЯ ЧЫТАЧОЎ

**На сённяшні дзень у Слоніме і Слонімскім раёне дзейнічаюць 45 бібліятэк, кніжны фонд якіх складае 616 тысяч экземпляраў. Яны абслугоўваюць 37500 чытачоў у год.**

Не гледзячы на складанае фінансавае становішча, у мінулым годзе Слонімскі раён заняў першае месца ў вобласці па набыццю кніг для бібліятэк. Па словах дырэктара Цэнтральнай бібліятэкі імя Я. Коласа Ларысы Рэпінскай, за мінулы год у бібліятэкі паступіла 10,5 тысячы новай літаратуры.

Вольга ШЫНКЕВІЧ

## Каждый третий белорус думает ПРО ЭМИГРАЦИЮ

**Около трети — 31 процент — жителей Беларуси хотели бы переехать на постоянное место жительства в другую страну.**

Из них 10 процентов готовы эмигрировать в США, 9 процентов — в Германию, 2 процента — в Польшу и 1 процент хотел бы переехать в страны Балтии. В Россию готовы уехать 3 процента респондентов, а 6 процентов хотели бы переехать в любую другую страну. Таковы данные опроса общественного мнения, проведенного в июне учеными Независимого института социально-экономических и политических исследований совместно с сотрудниками Центра социальных и экологических исследований.

Всего на анкету ответило около полутора тысяч респондентов. При этом 68 процентов из них заявили, что никуда не хотели бы переезжать. 1 процент опрошенных затруднились ответить на предложенный вопрос.

Леонид ИГНАТЬЕВ

# ВИДИМОСТЬ РЕФОРМ В ОТВЕТ НА КРИЗИС ЭКОНОМИКИ

**Ощущая провалы во всех сегментах экономики, административный режим А.Лукашенко в конце первого полугодия нынешнего года под давлением внешних факторов, прежде всего продолжения экономических реформ в России, начал создавать видимость каких-то реформ и изменений в стране.**

Так, в июне Совет Министров принял постановление "Об изменении стоимости именного приватизационного чека "Имущество". Постановление принято под воздействием двух причин. Во-первых, в связи с последней переоценкой основных фондов. Ведь приватизационные чеки были введены 6 лет назад, и тогда один такой чек стоил 4 доллара, а сейчас — менее 20 центов. Во-вторых, приватизационный процесс можно оживить, если стоимость ваучеров будет реальной.

Именно опираясь уже на переоценку приватизационных чеков, Министерство государственного имущества в конце июня определило ряд акционерных обществ, акции которых в этом году будут выставлены на чековые аукционы. В министерстве рассчитывают, что первый аукцион состоится уже в августе. В новом перечне 88 предприятий. Наиболее внушительно представлены объекты хозяйствования Витебской и Гродненской областей, а также Минска. В частности, такие далеко не преуспевающие предприятия, как ОАО "Гомельобои", промышленная торговая фирма "8 марта", "Гомельдрев", "Мозырьпромстрой", "Лидапищеконцентраты".

(Продолжение на 3 стр.)



З моманту знікнення журналіста Дзмітрыя Завадскага мінула: 13 дзён

## НАВУЧЭНЦЫ НЯДЗЕЛЬНЫХ ШКОЛ САБРАЛІСЯ Ў СЛОНІМЕ

**У Слоніме на Віленскай вуліцы на базе епархіяльных катэхізісных курсаў, з благаслаўлення епіскапа Навагрудскага і Лідскага Гурыя, праводзяцца практычныя заняткі навучэнцаў праваслаўных нядзельных школ Гродзеншчыны.**

Па словах арганізатара заняткаў Валянціны Антонаўны Клімаш, у першым зборы ўдзельнічае 47 дзяцей з Іўя, Карэліч, Навагрудка, Слоніма, Смаргоні і іншых гарадоў і мястэчак. Сярэдні ўзрост навучэнцаў 10-14 гадоў. На працягу 15 дзён хлопчыкі і дзяўчынкі будуць вывучаць Закон Божы, асновы хрысціянскай маралі, а па выбару — царкоўныя спевы, маляванне і царкоўнаславянскую мову. Пасля заканчэння збораў іх удзельнікі атрымаюць адмысловыя пасведчанні.

Кожны дзень для дзетак пачынаецца і заканчваецца малітвай, яны ўдзельнічаюць у набажэнствах, працуюць на агародзе, але і адпачываюць, для іх праводзяцца экскурсіі па Слоніме і Жыровічах, дэманструюцца царкоўныя відэафільмы. Мы сталі сведкамі футбольнага матчу, пабывалі на выставе дзіцячых малюнкаў і на занятках.

З дзецьмі, акрамя выкладчыкаў, працуюць і навучэнкі катэхізісных курсаў. Дарэчы, курсы гэтыя дзейнічаюць з мінулага года, і на іх навучаецца 20 чалавек. Сёлета плануецца зрабіць другі набор навучэнак. Чакаецца, што будзе вялікі конкурс. Наогул, з новага года курсы могуць атрымаць статус вучылішча. Загадчыкам катэхізісных курсаў з'яўляецца іерэй Алег.

Сяргей ЁРШ



Фота Віталя ГІЛЯ

# ДИАГНОЗ: большинство довольны!


*Люди идут лечиться*

"У вас есть мазь лево..." "Левомеколь, — подсказала дедушке аптекарша киоска Центральной районной больницы. - Она стоит 1330 рублей. Будете брать?" "Где ж взять эти 1330? - возмутился мужчина. - Боже, ну и цены!" Он, опустив голову, пошел занимать очередь в регистратуру.

Полвосьмого утра. Я считаю людей, которые выстроились около окошка регистратуры прямо до самых дверей. Их - больше тридцати. Люди все идут и идут, чтобы с самого утра взять талончики на прием к врачу.

К пяти минутам девятого очередь стала возмущаться, так как регистратура еще не начала свою работу. "Наконец-то, — не выдержал пожилой мужчина, увидев девушек в белых халатах. - Неужели трудно начать работу вовремя?". "Всего на пять минут опоздали. Ну и что? Только не надо кричать с самого утра, еще целый день впереди", — проговорила одна из них.

Началась раздача талончиков. Очередь потихоньку успокоилась, и люди стали расходиться со своими бедами по кабинетам. Я подошла к аптечному киоску, чтобы поинтересоваться, сколько стоят лекарства. Да, цены, действительно, высоки. "У вас есть что-нибудь от аллергии?" - поинтересовалась я. "Кларетин - 6917 рублей, — проинформировала меня аптекарша. - Хорошее средство, от многих видов аллергии".

"Довольны ли вы нашим медицинским обслуживанием?" - с таким вопросом корреспонденты "ГС" обратились к слонимчанам, выходящим из больницы.



**Станчик Станислав Иосифович**, *работник КБЗ:*

— Конечно, доволен. Правда, денег не хватает на лекарства.



**Светлаков Максим Викторович**, *работник пожарной части:*

— И да, и нет. Не всегда можно попасть на прием к врачу. Придумали систему талончиков, которых постоянно не хватает.



**Покало Галина Александровна**, *работница детского сада:*

— Довольна. Денег, правда, не всегда хватает на таблетки. А так - все хорошо, персонал внимательный, помогают людям.

**Харитончик Сергей**, *бухгалтер:*

— Если честно, то пока что у меня нет больших проблем. Стараюсь не сталкиваться вплотную. В медицине такое же положение, как и везде - не хватает финансов. У медработников зарплаты небольшие, поэтому ничего предосудительного нет в том, что они ищут заработок в других местах, на частных фирмах.



**Корчиц Валерий Мечиславович**, *безработный:*

— Я к врачам редко обращаюсь. Сейчас нет лекарств, чтобы людей лечить. Я вот в Минск ездил на УЗИ. Так там деньги заплатил — и меня обследовали, а тут...



**Суринова Татьяна Трофимовна**, *пенсионерка:*



— Поскольку я часто обращаюсь к врачам, то я, конечно же, довольна. Иногда приходится постоять в очереди. Я инвалид 2-й группы, для меня выписывают льготные лекарства, которых потом не достать в аптеках. Поэтому приходится искать замену.



***Жилинская Надежда Моисеевна**, пенсионерка:*

— Я довольна. Правда, моей пенсии не хватает на лекарства.



**Шевченко Ольга Николаевна**, *тренер в спортивной школе:*

— Не довольна. Все делается некачественно. Лекарства есть, но они очень дорогие.

**Сахонь Степан Степанович**, *пенсионер:*

— Доволен. Лежу в терапии - не могу обижаться. Пока что хватает денег на лекарства.

**Ольга ШИНКЕВИЧ, Виталий ГИЛЬ (фото)**

# ГРУНВАЛЬД ІВАНА САНЮКА

**15 ліпеня споўнілася 590-я гадавіна Грунвальдскай бітвы, калі ў 1410 годзе войскі Вялікага княства Літоўскага пад началам Вялікага князя Вітаўта разам з польскімі войскамі караля Ягайлы пад Грунвальдам (цяпер Альштынскае ваяводства ў Польшчы) ушчэнт разграмілі войскі крыжакоў Тэўтонскага ордэна, якімі камандаваў магістр ордэна Ульрых фон Юнгінген.**

А напярэдадні гадавіны той далёкай перамогі ў рэдакцыю газеты завітаў слонімец Іван Санюк, які расказаў пра свой "жыццёвы Грунвальд".

У чэрвені 1944 года немцы рыхтаваліся пакідаць Слонім — вывозілі ўсё, што можна было вывезці. Так 12-гадовы Іван Санюк са сваімі бацькамі трапіў у конны абоз, дзе падводы былі нагружаны рознай нарабаванай фашыстамі маёмасцю. Як успамінае Іван Фёдаравіч, яны везлі выробленыя скуры. Даехалі яны "сваім ходам" да Хохэнштэйна, што побач з Грунвальдам. Там абоз расфарміравалі, а ўсіх людзей загналі ў поле пад Грунвальдам (тое самае поле бітвы — **М.К.**), дзе быў разбіты палявы лагер. Па словах Івана Фёдаравіча, за кіламетр з нечым ад лагера стаяў вялікі змрочны будынак, вакол якога знаходзіліся магілы загінуўшых нямецкіх салдат, а ў сярэдзіне размяшчалася нешта накшталт музея Грунвальдскай бітвы, але туды іх, малых, не пускалі. А з лагера ў полі дзяцей і некаторых дарослых "абознікаў" выпускалі шукаць сабе харч у блізкім мястэчку. Іван Санюк адважыўся зайсці ў катэдж, які якраз стаяў насупраць музея. Там яму пашанцавала. Гаспадыня запрасіла за стол і сказала, што яе муж ваюе на фронце, а яна адна гадуе двое дзяцей, а потым наказала, каб і надалей Іван прыходзіў харчавацца да яе. Яшчэ некалькі разоў потым хлопчык наведваў гасцінны катэдж, але ў музей так і не трапіў...

У наш час на тым месцы засталіся толькі памятныя стэлы. А ў 1945 годзе патомкі рыцараў-крыжакоў бясслаўна пакінулі Грунвальд. Па сведчанню некаторых гісторыкаў, Адольф Гітлер у свой час завяшчаў нават пахаваць яго ў Грундвальскім музеі. Аднак гісторыя зноў паўтарылася. Сям'я ж Івана Санюка шчасліва вярнулася ў Слонім на Рыбацкую вуліцу. Але ўспаміны пра Грунвальдскае поле засталіся ў Івана Фёдаравіча на ўсё жыццё.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

## ПАЛОМНІКІ СА СТАЛІЦЫ НА ГРОДЗЕНШЧЫНЕ

**3 панядзелка, 17 ліпеня, распачалося паломніцтва каля 40 маладых людзей па праваслаўных мясцінах Гродзеншчыны.**

Ініцыятарам гэтай акцыі выступіла праваслаўнае брацтва імя Кастуся Астрожскага з Мінска. Каля сарака паломнікаў наведаюць Жыровічы, Сынковічы, Ваўкавыск ды іншыя гарады і мястэчкі. У Зэльве, напрыклад, адбудзецца вечарына, прысвечаная памяці паэткі Ларысы Геніюш.

**Алег ТАЧОНЫ**

# ГОСЦІ З ЖЭШУВА

**Досыць часта ў Слонім прыязджаюць замежныя госці. Вось і на мінулым тыдні сюды наведаліся сябры Асацыяцыі "Б-4" з польскага горада Жэшува Біята Солтыс, Томаш Яворскі і Ірэнуш Стэвля.**


*Госці з Польшчы і сябры грамадскай арганізацыі «Воля да развіцця»*

У Слоніме яны з'явіліся гасцямі грамадскай арганізацыі "Воля да развіцця", а таксама наведалі рэдакцыю нашай газеты.

На традыцыйнае пытанне пра ўражанні ад Слоніма, госці дружна адзначылі, што ім спадабаўся сам горад і размераны, няспешны ход жыцця гараджан. Але разам з тым яны заўважылі, што ў эканоміцы горада, у працы прадпрыемстваў "зацішша" не на карысць людзям, і пажадалі слонімцам поспехаў ва ўсіх іхніх справах і дабрабыту.

**Мікола КАНАНОВІЧ, Віталь ГІЛЬ (фота)**

ПОЧТА

## Дождь поливает, а водоканал за полив деньги собирает

На днях пошла к работнице водоканала, которая принимает в ЖЭС-1, начислить плату за воду.

— С вас такая-то сумма, — ответила работница бухгалтерии водоканала. — В том числе и за полив огородов.

— Позвольте, — возразила я. — За какой полив, если почти весь июнь и июль идут дожди? Какой может быть полив из водопровода?

— Всё равно платить за поливку огородов надо, — категорически ответила представительница водоканала. — Так приказал директор. Идите к нему и разбирайтесь...

Вот так-то. Дождь поливает наши огороды, а водоканалу надо платить деньги.

Мое возмущение по этому поводу, как я считаю, разделяют тысячи слонимчан.

**Мария СТРОКИНА**, жительница г. Слонима

## ПЕРАМОЖЦЫ КОНКУРСУ "ПЕСНІ НАД НЁМАНАМ"

**У Гродне прайшоў абласны конкурс "Песні над Нёманам".**

У ім прынялі ўдзел вядомыя і маладыя спевакі Прынёманскага краю. Першае і другое месца ў гэтым конкурсе занялі нашы спевакі са Слоніма Вольга Змуршчык і Аляксандр Яфімік.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.97г.
Заснавальнік Віктар ВАЛАДАШЧУК
В.а. рэдактара Сяргей ЕРШ

Адрас рэдакцыі: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны:
рэдакцыі .........2-14-39
.........(017) 210-87-17
аддзел рэкламы ..........2-49-39

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць. Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://gs.promedia.minsk.by

Падпісана да друку 19 ліпеня 2000г. Час падпісання 7:00.
Надрукавана ў Слонімскай узбуйненай друкарні, г. Слонім, вул. Хлюпіна, 16.

Падпісныя індэксы:
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
Наклад 9000 экз.
Заказ №2431

## Мастоўскія стыпендыяты

**Па выніках бягучага навучальнага года дзесяць лепшых вучняў школ горада атрымалі стыпендыі Мастоўскага выканаўчага камітэта.**

Гэта Таццяна Галубовіч, Алена Біч, Вікторыя Радзінская, Віталь Галубовіч, Ігар Кандратовіч, Аляксей Карповіч, Андрэй Грыгор'еў, Ірына Апалонава, Ганна Чэрнік, Вераніка Мандзік. Іх бацькі атрымалі лісты з падзякамі за добрае выхаванне дзяцей.

Язэп ПАЛУБЯТКА

## Лаўрэаты "Аўсюкоў"

**Вельмі ўдала выступілі на Рэспубліканскім фестывалі сатыры і гумару, што прайшоў у вёсцы Аўсюкі Калінкавіцкага раёна Гомельскай вобласці, прадстаўнікі Гродзеншчыны.**

У намінацыі "Анекдоты" ганаровы дыплом і каштоўны падарунак атрымаў Леанід Блінкоўскі з санаторыя "Радон" Дзятлаўскага раёна.

Выканаўцы прыпевак са Слоніма Раіса Кіслая і Ірына Бурсевіч узнагароджаны дыпломамі.

Карэспандэнт "Газеты Слонімскай" Леанарда Юргілевіч удастоена дыплома "За развіццё традыцый беларускага гумару".

Сяргей ЧЫГРЫН

## На веласіпедах — за мяжу

**Старшыня лідскай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны Лявон Анацка з дапамогай спонсараў здзейсніў з групай вучняў 3-дзённую экскурсію ў Літву на веласіпедах.**

Школьнікі Юля Гяцэвіч, Андрэй і Сяргей Раіцкі і іншыя пабывалі ў Шальчынінкаі, Вільні і Тракаі, азнаёміліся са славутымі мясцінамі гэтых гарадоў.

У першым годзе новага веку лідчане мяркуюць ажыццявіць падобнае падарожжа ў Чэхію.

Валянціна МАХНАЧ

## Жаць няма чаго, жаць няма чым

**У Мастоўскім раёне вясновыя замаразкі знішчылі 60% пасеваў.**

Але надзеі на тое, што астатак будзе зжаты своечасова няма ніякай. Зараз паўстае пытанне тэхнікі. І справа не ў тым, што яна старая ды зношаная. Ні ў адной гаспадарцы раёна на сённяшні дзень не створаны запас ГСМ, а ў калгасе "Чырвоны партызан" няма гаручага нават на адзін дзень працы камбайнаў. У гэтым калгасе таксама няма акамулятараў да камбайнаў.

Язэп ПАЛУБЯТКА

## ОБЩЕНАЦИОНАЛЬНЫЙ социологический опрос

**"Удовлетворены ли Вы тем, как А.Лукашенко управлял страной в течение шести лет?" — с таким вопросом обратились к жителям Беларуси ученые Независимого института социально-экономических и политических исследований и Центра социальных и экологических исследований в ходе общенационального социологического опроса, проводившегося в июне этого года.**

Были опрошены около 1.500 респондентов, представляющих все социально-демографические слои населения страны. 22 процента из них заявили, что "скорее удовлетворены" работой Лукашенко на посту главы государства. 45 процентов опрошенных "отчасти удовлетворены, отчасти не удовлетворены". 32 процента респондентов "скорее не удовлетворены" тем, как Лукашенко управлял страной в течение шести лет. Остальные опрошенные (1 процент) затруднились ответить на предложенный вопрос.

БелаПАН

## Прысуд вынесены

**У Мастоўскім судзе на працягу трох дзён пад старшынствам суддзі Герасімчыка ішоў разгляд справы грамадзяніна Ятчэні, які на прыканцы лютага бягучага года, кіруючы аўтамабілем у нецвярозым стане, ля вёскі Пілкі наехаў на братоў Пацапеяў, якія ехалі на веласіпедзе.**

Ятчэня ўцёк з месца аварыі. У выніку, старэйшы падлетак ад атрыманага калецтва праз некалькі дзён памёр, а малодшы на некалькі месяцаў быў прыкаваны да бальнічнага ложка. Суд прызначыў Ятчэню вінаватым і асудзіў да сямі з паловаю гадоў зняволення.

Язэп ПАЛУБЯТКА

## Грошай і сена

**Аднаго дня ў калгасе імя Чапаева Мастоўскага раёна не выйшлі на працу механізатары і паляводы.**

Першыя запатрабавалі выплаты заработнай платы, другія — выдачы большай колькасці сена. Рэч у тым, што пасля першага ўкоса людзям мала выдзялялі сена, для патрэб прыватных гаспадарак. У канфлікт вымушаны быў умяшацца намеснік старшыні Мастоўскага райвыканкама Сяргей Штарноў. Толькі яго абяцанкам паверылі сяльчане.

Антон МАКЕЙ

## "Першыя ластаўкі" літоўскай школы

**Першы выпуск адбыўся сёлета ў Пеляскай літоўскай недзяржаўнай школе, што на Воранаўшчыне.**

Атэстаты аб сярэдняй адукацыі атрымалі Марына Грышан, Тарэза Рагініце і Віталь Палавінка. Па мэтаваму прыёму яны залічаны студэнтамі Віленскага педуніверсітэта. Пасля заканчэння якога яны стануць у роднай школе настаўнікамі.

## Людская спагада

**Радасць пасялілася ў сям'і Васіля і Генадзя Пацаў з мястэчка Забалаць Воранаўскага раёна.**

Дзякуючы людской дапамозе і ўмелай аперацыі кардыяхірургаў з польскага горада Познань уратавана жыццё іх сына Алега. Лячэнне за мяжой каштавала больш за шэсць тысяч долараў ЗША. Сабраць такую суму вяскоўцам дапамаглі многія спагадлівыя людзі. Сярод іх і слонімчанка Г. Крылова.

Валянціна МАХНАЧ

## Кулямёт для музея

**У Дзятлаўскім гісторыка-краязнаўчым музеі з'явіўся новы экспанат.**

Мясцовыя жыхары знайшлі ў лесе кулямёт часоў Вялікай Айчыннай вайны і падаравалі яго музею.

Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ

# ВИДИМОСТЬ РЕФОРМ В ОТВЕТ НА КРИЗИС ЭКОНОМИКИ

■ Владимир КУЛАЖЕНКО, доктор экономических наук, профессор

**(Начало на 1 стр.)**

Процесс приватизации, как известно, должен быть гласным, прозрачным и общедоступным. Но, по неизвестным причинам, в новом перечне только 5 – 6 АО, акции которых будут обмениваться по всей стране, остальные — локально, по месту нахождения объекта. К приватизации, как и в предыдущие годы, определены малоперспективные предприятия. Очевидно, что власти принципиально не изменили своего отношения к приватизации. По форме вроде бы сделан шаг вперед, а по существу продолжается лишь игра в приватизацию. Этому есть и косвенное подтверждение. Чиновники хорошо понимают, что держатели ваучеров вряд ли бросятся приобретать акции при отсутствии надежды хотя бы на минимальные дивиденды. Поэтому Мингосимущество имеет поручение разработать специальное положение и предложить правительству варианты погашения неиспользованных приватизационных чеков.

При всех попытках начать реформирование государство не отходит ад административных методов регулирования. Так, объявлено, что к октябрю будет введен единый валютный курс. Но отметим: без учета соотношения спроса и предложения валюты, а также и рубля, что является непременным условием при переходе к рынку, все будет осуществляться (и уже осуществляется) посредством постепенной девальвации белорусского рубля.

В эти дни рубль раз за разом дешевеет на две единицы. На 17 июля соотношение составляло 715 рублей к 1 доллару США. Чтобы выравнять официальный и рыночный курсы рубля; надо преодолеть еще разницу в 320 единиц. И это при условии, если рыночный курс будет стоять на месте, что в нынешней ситуации просто невозможно. Следовательно, или намерение установить единый валютный курс к началу октября будет в очередной раз провалено, или придется административным методом удвоить темпы девальвации рубля с неизбежным ускорением инфляции.

Между прочим, последняя напоминает о себе все сильнее и сильнее. Все время дорожают хлеб, молочные продукты, сахар, алкогольные напитки, в частности пиво. Беларусь начинает импортировать продовольствие, в том числе молочные продукты, из России. Дорожают тарифы на проезд, коммунальные услуги, связь. На очереди новое повышение цен на водку. По причине высоких акцизов на спирт (6 евро на 1 литр) производство водки (когда это было!) стало убыточным и многие ликеро-водочные предприятия приостановили производство. Выход один — надо повысить цены, что, несомненно, и последует.

Делая робкие поползновения в сторону реформирования, государство не забывает о казне. Действуя административно, оно создает все новые проблемы, решить которые еще сложнее. Примером этого может быть регулирование грузового автомобильного транзита по дорогам республики. Получая за транзит весьма приличные деньги (сотни миллионов долларов), власти возымели желание увеличить валютную дань с тех автомобилей, где груз на колесную ось превышает установленную норму. А что получили? В административном усердии перегнули палку. Желающих переплачивать оказалось негусто, валютные поступления за грузовой транзит резко сократились (на 40 %) и продолжают падать. Когда в казне недосчитались миллионов долларов, в правительстве опомнились и начали срочно искать выход. Но как его найти, если грузовые автомобили других стран, в том числе и России, пошли на Запад и обратно в объезд Беларуси? Итак, административные перегибы вновь порождают непреодолимые проблемы.

Правда, ошибки, просчеты и слабую ориентацию в экономической политике в какой-то степени помогает преодолеть косвенная или явная помощь России. По оценке аналитиков, только посредством разницы в цене энергоносителей и сырья Россия ежегодно финансирует режим Лукашенко в объеме 1,5 — 2 миллиардов долларов. А буквально с 1 июня пришла очередная подмога. Начальник Белорусской железной дороги Виктор Рахманько и министр путей сообщения России Николай Аксененко подписали в начале июня соглашение о грузовых тарифах. В соответствии с ним перевозочные тарифы для белорусских товаров существенно снижаются. Понятно, что это заметно повышает их конкурентоспособность на российском рынке. Насколько помощь России существенна, видно из следующих данных. При перевозке 1 тонны пиломатериалов из Минска в Москву транспортные затраты снизятся с 13,0 до 9,6 процента, транспортировка одного холодильника будет дешевле на 33 доллара, трактора — на 13,5 доллара, телевизора — на 50 долларов и т.д.

Однако донорские вливания восточной соседки не спасают экономику от кризиса в целом. Реформы становятся неизбежными. Между тем в самое последнее время наблюдаются такие действия правительственной администрации, которые свидетельствуют, что Беларусь не собирается идти на коренные реформы. Так, в соответствии с новым Гражданским кодексом все коллективные предприятия, а также предприятия, имущество которых является собственностью других лиц, должны преобразоваться в иные формы, предусмотренные кодексом. Естественно, что поскольку коллективные и частные предприятия составляли в нашей стране около четверти субъектов хозяйствования и многие перерегистрацию не прошли, то практически это означает их ликвидацию. Никто функционировать без регистрации не сможет, ибо в данном случае налоговая инспекция должна забрать всю выручку. Интересно, что организационные препятствия государство устраивает, несмотря на то, что сокращаются рабочие места и убывает масса денег, поступающая в бюджет.


Фота Віталя ГІЛЯ

Правительственная администрация стремится довести свое административное дело до конца. Не исключено, что в ближайшее время банкам будет доведено указание приостановить всякие операции по счетам фирм, не прошедших перерегистрации.

В такой же ситуации оказались и субъекты хозяйствования, занимающиеся оптовой торговлей. Как известно, президентским указом № 17 им было предписано до 1 июля получить соответствующие лицензии. Оформить и получить их за короткий срок оказалось невозможным. Ведь только в Минске зарегистрировано около 70 тысяч субъектов хозяйствования. Три четверти регулярно или периодически занимаются перепродажей. Следовательно, 50 тысяч должны были получить специальные лицензии. Горисполком выдать лицензии за несколько недель не смог, хотя с 6 часов утра стояли очереди по 300 — 400 предпринимателей. Сложилась ситуация, когда многие субъекты хозяйствования с 1 июля исчезли с карты белорусского бизнеса.

Возможно, опасаясь потери налоговых поступлений, государство попытается урегулировать вопросы регистрации и лицензирования оптовой торговли. Однако такая перспектива маловероятна при нынешней экономической политике, когда реформы только имитируются.

# "ГОРЯЧАЯ ЛИНИЯ" для предпринимателей

**19 июля в Минске открылась "горячая линия" для предпринимателей.**

Это – результат совместной работы Минского столичного союза предпринимателей и работодателей (МССПР) и проекта Международной финансовой корпорации (МФК) "Развитие малого и среднего бизнеса в Беларуси", который финансируется Агентством США по международному развитию.

Как сообщили БелаПАН в отделе по связям с общественностью проекта МФК "Развитие малого и среднего бизнеса в Беларуси", появление "горячей линии" обусловлено сложной и часто меняющейся организационно-правовой средой, в которой развивается белорусское частное предпринимательство. "Горячая линия" поможет оперативно получать квалифицированные юридические консультации по проблемным вопросам, возникающим у негосударственных предприятий и предпринимателей. В ходе работы линии предпринимателям предполагается предоставлять бесплатные прямые консультации по телефону и распространять методические материалы, подготовленные в рамках проекта МФК. В Минске "горячая линия" будет работать ежедневно по телефону: 227-20-22, а в областных городах – 1–3 раза в неделю. Организаторы полагают, что в ближайшее время основной темой "горячей линии" будут новые требования, предъявляемые к регистрации и перерегистрации субъектов хозяйствования.

По мнению руководителя проекта МФК Карла Дагенхарта, работа "горячей линии" станет "мостом, соединяющим два берега: предпринимательские структуры и органы власти, поможет им услышать друг друга и сделать шаг навстречу".

**Ирина САЗАНОВИЧ**

# "Пустых" денег в Беларуси печатать не будут

**Ни о какой раскрутке и даже запуске "денежного станка" по печатанию белорусских рублей речи идти не может. Об этом заявил журналистам премьер-министр Беларуси Владимир Ермошин во время недавнего визита в Могилевскую область.**



Отвечая на вопросы журналистов, Владимир Ермошин особенно подчеркнул, что сегодня нельзя рассчитывать на пустые эмиссионные деньги. Особенно тогда, когда сближаются валютные курсы, нельзя надеяться на индексацию капитальных вложений. По словам премьер-министра, сейчас надо строить свою работу в пределах тех средств, которые имеются в местном и республиканском бюджетах.

**Константин УВАРОВ**

# З'ЕЗД за незалежнасць

**Як вядома, на 29 ліпеня запланавана правядзенне "Усебеларускага з'езда за незалежнасць". Нядаўна Мінскі гарвыканкам дазволіў арганізатарам правесці мерапрыемства ў сталічным палацы культуры "Сукно".**

У ім павінны прыняць удзел каля 800 дэлегатаў і гасцей. На сённяшні дзень па ўсёй Беларусі ўжо вылучана 530 дэлегатаў на гэты форум.

Трэба адзначыць, што "Усебеларускі з'езд за незалежнасць", які быў ініцыіраваны вядомымі дзеячамі навукі і культуры Беларусі, будзе прымеркаваны да 10-й гадавіны прыняцця Вярхоўным Саветам БССР Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце нашай краіны. Адной з галоўных задач з'езда з'яўляецца прыняцце Акта незалежнасці Беларусі. Праект гэтага дакумента быў вынесены на ўсенароднае абмеркаванне. Усе заўвагі арганізатары з'езда прымаюць на наступны адрас: 220065, Мінск, а/с 297.

## АКТ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ БЕЛАРУСІ

Мы, дэлегаты Усебеларускага З'езда, паўнамоцныя прадстаўнікі ўсіх рэгіёнаў Рэспублікі Беларусь,

— усведамляючы адказнасць за будучыню Беларусі;

— напамінаючы, што Беларусь з'яўляецца дзяржавай-заснавальніцай Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў;

— грунтуючыся на прынцыпах і нормах міжнароднага і нацыянальнага права,

**Заяўляем:**

Беларускі народ мае тысячагадовую гісторыю сваёй дзяржаўнасці: ад Полацкага княства, Вялікага княства Літоўскага, Беларускай Народнай Рэспублікі да сучаснай Рэспублікі Беларусь. Прынятая Вярхоўным Саветам 27 ліпеня 1990 года Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце сцвярджае яго дзеля галоўнай мэты — свабоднага развіцця і дабрабыту, годнага жыцця кожнага грамадзяніна. Яна абвяшчае незалежнасць краіны ў вонкавых дачыненнях, вяршэнства, самастойнасць і паўнату дзяржаўнай улады, дзеючай на падставе правамоцных законаў. Любыя гвалтоўныя дзеянні супраць нацыянальнай дзяржаўнасці павінны пераследавацца як найвялікшае злачынства.

Ідэі Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце былі замацаваныя ў Канстытуцыі, прынятай 15 сакавіка 1994 года легітымна абраным парламентам. Паводле яе Беларусь увайшла ў свет як нейтральная, мірная і бяз'ядзерная дзяржава. Незалежнасць Беларусі з'яўляецца набыткам не толькі сённяшняга пакалення, але і нашых продкаў ды нашчадкаў. Суверэнітэт краіны не можа быць абмежаваны праз рашэнні вышэйшых дзяржаўных асобаў ды органаў і нават праз рэферэндум.

Сёння незалежнасць Рэспублікі Беларусь пастаўлена пад пагрозу. Рэальнай небяспекай ёй стала дамова аб стварэнні адзінай саюзнай дзяржавы з Расеяй, падпісаная 8 снежня 1999 года прадстаўнікамі ўладаў, чыя легітымнасць ставіцца пад сумненне ў большасці краін свету. Не бывае двух суверэнітэтаў у адной дзяржаве.

Мы — за добрыя, раўнапраўныя і ўзаемавыгадныя адносіны з усімі краінамі свету, і асабліва з суседзямі: Расеяй, Украінай, Польшчай, Літвой, Латвіяй. Але мы не жадаем станавіцца рэгіёнам ніякай дзяржавы. Суверэнітэт не можа перадавацца іншай дзяржаве ці новаствoранаму дзяржаўнаму ўтварэнню.

Незалежнасць — гэта натуральнае права ўсяго народа, кожнага грамадзяніна.

Мы, дэлегаты Усебеларускага З'езда,

**Сведчым**

Богам дадзенае нашаму народу права мець сваю незалежную дзяржаву;

**Абвяшчаем**

дзяржаўны суверэнітэт неад'емнай каштоўнасцю беларускага народа;

**Прызнаём**

не маючымі законнай сілы любыя пагадненні і рашэнні, скіраваныя на скасаванне альбо абмежаванне суверэнітэту Беларусі;

**Заклікаем**

міжнародныя арганізацыі, урады дэмакратычных дзяржаваў, сусветную грамадскасць забяспечыць гарантыі суверэнітэту Рэспублікі Беларусь.

Заклікаем суайчыннікаў згуртавацца вакол ідэяў Акта Незалежнасці.

Жыве Беларусь!

# ПЕРШЫЯ КРОКІ беларусізацыі ў войску

**Міністр абароны Беларусі Аляксандр Чумакоў заявіў, што Міністэрства абароны гатовае ўсталяваць у войску беларускую мову.**



У лісце на імя старшыні Таварыства беларускай мовы Алега Трусава генерал-палкоўнік Аляксандр Чумакоў піша: "Думаю, што мы зможам пакінуць палеміку і пачаць працаваць на ніве ўсталявання беларускай мовы ў войску". Цікава, што яшчэ месяц назад міністр абароны трымаўся зусім іншай думкі. Тады спадар Чумакоў заяўляў, што аўтарытэт беларускага войска не залежыць ад таго, на якой мове ў ім вядзецца баявая падрыхтоўка. І на беларусізацыю, маўляў, не трэба траціць грошы, якіх у дзяржавы да таго ж усё роўна няма...

Цяпер міністр абароны гатовы да рэалізацыі двух прапаноў ТБМ: перакладу на беларускую мову вайсковых статутаў і надання статусу двухмоўнай вайсковай газеце "Во славу Родины". Ажыццявіць гэтыя праекты дапамогуць спецыялісты Таварыства беларускай мовы.

**Сяргей ЁРШ**

# Зборнік беларускага рэлігійнага верша

**"Ды ўваскрэсне любоў" — пад такой назвай нядаўна пабачыў свет зборнік вершаў, які склаўся з паэтычнай пошты беларускай праваслаўнай газеты "Царкоўнае слова".**

Кніга выдадзена ў Мінску накладам 300 паасобнікаў. Сярод яе аўтараў ёсць і аматары, і прафесіяналы. У зборнік увайшлі вершы вядомых паэтаў Майсея Сяднёва з ЗША, Людмілы Сільновай з Мінска і Алега Бембеля з Жыровіцкага манастыра. Укладальнікам выдання з'яўляецца паэтэса Галіна Каржанеўская.

**Алег ТАЧОНЫ**

# СКОРО ВЫБОРЫ В ПАЛАТУ

**Центральная комиссия по выборам и проведению республиканских референдумов приняла постановление "Об образовании избирательных округов по выборам депутатов Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь второго созыва".**

Выборы в Палату представителей назначены на 15 октября 2000 года. Согласно постановлению Центральной комиссии, в стране образуется 110 избирательных округов, из них 18 – в столице.

Окружные избирательные комиссии должны быть сформированы до 31 июля, а 6 августа начнется выдвижение кандидатов в депутаты Палаты представителей путем сбора подписей, которое продлится до 5 сентября. Затем, с 5 по 14 сентября, окружные избирательные комиссии должны проверить все представленные документы и зарегистрировать кандидатов. С 15 сентября по 14 октября включительно кандидаты в депутаты будут проводить свою агитационно-пропагандистскую предвыборную кампанию.

Государственные расходы на избирательную кампанию составляют свыше 4 миллиардов 32 миллионов рублей, или чуть более 4 миллионов долларов США по рыночному курсу. Если разделить эту сумму на 7 миллионов 300 тысяч белорусских избирателей, то на каждого из них придется около 60 центов. Лидия Ермошина сообщила, что 13 июля ЦИК утвердил все образцы избирательных документов, которые в ближайшие дни будут размножены и 25 июля поступят в регионы. Кроме того, на следующей неделе планируется опубликовать положения о деятельности иностранных и местных наблюдателей, о хранении и сдаче в архив всех документов, относящихся к избирательной компании, а также о порядке участия в голосовании граждан страны за рубежом.



**БелаПАН**

# Продовольственная безопасность страны зависит от урожая

**Премьер-министр Беларуси Владимир Ермошин выразил уверенность в том, что урожай зерновых культур этого года позволит обеспечить продовольственную безопасность страны.**

Глава правительства назвал примерный объем будущего урожая – 5 –5,5 миллиона тонн зерна. Это гораздо больше урожая прошлого года, несмотря на то, что, по словам премьера, особенностью этого полевого сезона стала непогода. Сорта твердой пшеницы, которая выращивается на Беларуси в мизерном объеме, будут, как и прежде, закуплены в достаточном количестве за рубежом.

Ермошин также сообщил, что для расчета с сельскими хозяйствами за выполненный госзаказ по выращиванию зерна уже выделен первый транш кредита в размере 30 миллиардов рублей.

**Ирина МАКОВЕЦКАЯ**

# ХЛОПЕЦ З ЛІДЫ ЗАБІЎ ФРАНЦУЗСКУЮ СЯМ'Ю

**Гэтая навіна абляцела ўсе сусветныя сродкі масавай інфармацыі. Дваццацігадовы беларус, ураджэнец горада Ліды Васіль Фускалек па-зверску забіў у Францыі сям'ю Марка Фусара.**

Марсельскі служачы Марк Фусар на сітраене "Пікасо" вяртаўся з працы дахаты. Каля самага ягонага дома на яго накінуўся моцны хлопец у джынсах і светлай майцы, з нажом у руках. Ён адабраў у Фусара ключы ад машыны, у якую пасадзіў усю ягоную сям'ю – жонку і 13-гадовую дачку. Бацькоў ён скаваў кайданкамі на заднім сядзенні, а дзяўчынку пасадзіў побач з сабой на пярэднім. Пасля гэтага Васіль Фускалек вывез сям'ю Фусараў за горад і спыніўся каля лесу.

Спачатку Фускалек вывеў з аўтамабіля і згвалціў дзяўчынку. Пасля гэтага ён яе задушыў. Наступнай ахвяраЙ стаў Марк Фусар, якога лідчанін забіў ударам нажа ў сэрца. Жонка Фусара атрымала шэсць удараў нажом і памірала ў пакутах... Васіль Фускалек забраў у забітых грошы, крэдытныя карткі і паехаў у недалёкі Тулон. Там ён і быў затрыманы паліцэйскімі. У гэты момант Васіль старанна вымываў скрадзены аўтамабіль.

У час следства высветлілася, што Васіль Фускалек больш года служыў у французскім Замежным легіёне, дзе атрымаў новае імя – Алек Вайцюк. Пасля абучэння ён служыў у 2-ім інжынерным палку легіёна ў Сен-Крыстоль, а з чэрвеня гэтага года быў пераведзены ў ваенны шпіталь у Марсель. Аднак ужо праз некалькі дзён Фускалек учыніў зверскае забойства...

У паліцыі хлопец ва ўсім прызнаўся, паказаў месца, дзе пакінуў трупы забітых людзей. А ўжо ноччу, у турэмнай камеры, Фускалек скончыў жыццё самагубствам, перарэзаўшы сабе вены на руках і горла. Паліцыя мяркуе, што беларус мог быць серыйным забойцам у сябе на радзіме, таму следства па гэтай справе закончыцца яшчэ не хутка.

**Алег ТАЧОНЫ**

ЛЁС ЧАЛАВЕКА

# ДАЧКА САВЕЦКАГА ПАГРАНІЧНІКА ДЗЕСЯЦІГОДДЗІ ШУКАЛА СВАЮ СЯМ'Ю

**Дзесяцігоддзі прайшлі пасля заканчэння вайны, але і сёння людзі шукаюць адзін аднаго, згубіўшыся ў тую вогненную пару. На расійскім тэлебачанні ёсць нават адмысловая перадача, прысвечаная гэтай тэме. Людзі шукаюць і знаходзяць сваіх сваякоў, сяброў пасля доўгага расстання. Калісьці падобнымі пошукамі сваіх родных займалася сланімчанка Рыма Раманаўна Самарская (Вашчыліна). Лёс звязаў яе з нашым горадам у ваеннае ліхалецце.**



*Рыма Самарская*



*Рыма са сваёй мамай Марыяй, канец 30-х гг.*

### Засталася без бацькоў

Рыма Раманаўна нарадзілася ў 1934 годзе ў Таджыкістане, у горадзе Пархар. У той час там служыў яе бацька, Раман Вашчылін, афіцэр-пагранічнік. Восенню 1939-га яго перавялі ў Ломжу, за Беласток. Старшы лейтэнант Вашчылін служыў намеснікам начальніка 86-га пагранатрада.

— Калі пачалася вайна, — успамінае Рыма Самарская, — бацька пайшоў на заставу, а мяне і маму на машыне адправілі на ўсход. Помню, што мы ехалі і на цягніку, ішлі пешшу, часта лесам. Нёс мяне праз балота салдат. Аднойчы заходзілі ў вёску, дзе мяне пачаставалі блінцом з грэчневай мукі...

Аднойчы на калону бежанцаў наляцелі нямецкія самалёты. Людзі разбегліся, схаваліся ў жыце. Рыма з мамай упала недалёка ад дарогі, на якую падалі бомбы. Асколкі трапілі ў іх абоіх. Рыма была паранена ў плячо (адзін асколак у яе пасля вымуць, а другі застаўся ў плячы назаўсёды), а маці адным асколкам перабіла руку, другі трапіў у скронь.

— Яна мне сказала, што хутка памрэ, — гаворыць Рыма Раманаўна. — А я пабегла шукаць шафёра машыны, на якой мы ехалі. А яшчэ самалёты лёталі. Калі ж вярнулася, дык мамы там ужо не было, толькі кроў засталася на памятым жыце. Нейкая жанчына ўзяла мяне на машыну, перавязала рану. Так я з ёй і ехала. Зноў трапілі пад бамбёжку, і яна мне казала, што зараз будзе так, як з маёй мамай... А што з мамай сталася, я не ведала. Можа тады яна памерла і яе пахавалі?..

### Хрышчэнне

У Слонім бежанцы (а былі гэта, у асноўным, жанчыны і дзеці) прыйшлі пешшу. У горадзе ўжо былі немцы. На ускрайку Слоніма, каля яўрэйскіх могілак, Рыма ўпершыню ўбачыла забітых людзей — там на горцы ляжала шмат трупаў чырвонаармейцаў. Там іх і пахавалі.

Бежанцаў спачатку памясцілі ў будынак сённяшняй турбазы на Шасэйнай вуліцы, а пасля перавялі ў Народны дом (які цяпер у руінах). Рыма Раманаўна ўспамінае, што бежанцаў было шмат, яны спалі і сядзелі на падлозе. Неўзабаве немцы загадалі ўсіх дзяцей-сірот здаваць у дзіцячы дом.

— Жанчына мяне прывяла ў дзіцячы дом на вуліцу Пушкіна (цяпер у тым будынку падатковая інспекцыя) і пакінула. Больш яе я не бачыла... Выхавальнікі ў дзіцячым доме былі палякі. Я і сёння разумею па-польску, нешта памятаю з таго, чаму яны нас вучылі.

А пасля немцы даведаліся, што тут шмат дзяцей савецкіх вайскоўцаў, няхрышчаных, і загадалі нас перахрысціць, — успамінае Рыма Самарская.

Праваслаўны святар аб'явіў людзям у слонімскай царкве, каб яны прыйшлі ў дзеддом і выбіралі сабе хрэснікаў. Інакш, сказаў, дзяцей немцы растраляюць... Людзі прыходзілі і выбіралі дзетак. Рыму выбрала Хрысціна Васільеўна Радзюк з Лабазоўкі. Дзяцей вучылі малітвам, паказвалі, як трэба хрысціцца. Хросным бацькам Рымы быў мужчына з нейкай вёскі. У той дзень ён якраз вянчаўся. Калі сталі хрысціць, святар сказаў, што "такога імя "Рыма" ў царкве няма". Таму далі дзяўчынцы новае імя — Рая. І сёння Рыму Раманаўну людзі ў Лабазоўцы ведаюць як Раю...



*Раман Вашчылін, 1932 г.*

### Як у дзіцячым доме спявалі беларускі гімн

У 1942 годзе ўсе дзеці-яўрэі былі немцамі забраны з дзіцячага дома і расстраляны. Іншых дзяцей перавялі ў дзіцячы дом на Шасэйную вуліцу. Было голадна. Дзеці хадзілі па горадзе, шукалі што паесці... З часам у дзіцячага дома з'явілася свая гаспадарка: свінні, каровы, бульба, грэчка. Кухарыла пані Васілеўская, якой ужо няма ўжывых. Дзяцей кармілі тры разы на дзень.

— Кожны дзень, раніцай і вечарам мы збіраліся ў адным пакоі і спявалі беларускі гімн, — успамінае Рыма Самарская. — Ён называўся "Беларусь — наша маці-краіна!". Вучыла нас яго спяваць дырэктар дзіцячага дома Вольга Ігнацьеўна Пікелка (цяпер яна жыве ў дачкі ў Кіеве). Выхавацелькі ў нас былі беларускамі. Была яшчэ выхавацелька Ева Байрашэўская, якую мы звалі пані Ева.

І сёння Рыма Самарская памятае словы з "беларускага гімна", на самой справе, беларускай патрыятычнай песні, напісанай на верш вядомай паэткі Наталлі Арсенневай:

"Беларусь — наша маці-краіна!
*Ты з нас моцных зрабіла людзей.*
*Не загінулі мы й не загінем,*
*Пакуль нас ты наперад вядзеш.*
*Пастаім за цябе, як асілкі.*
*Нашы сэрцы палаюць агнём...*".

З тых ваенных часоў запомніліся і песні Саюза беларускай моладзі. Тады па слонімскіх вуліцах хадзілі калонамі хлопцы і дзяўчаты, спяваючы патрыятычныя песні. — Сустракаеш цяпер тых "юнакаў" ці "юначак", — гаворыць Рыма Раманаўна, — дык яны не прызнаюцца нават, што былі ў той арганізацыі, і песень не памятаюць. А я, хоць і малая была, але помню.

### Два гады ў Нямеччыне

У 1943 годзе ў дзіцячы дом прыйшлі немцы, адабралі 18 дзяцей, а сярод іх і Рыму. Завезлі іх на машыне ў Баранавічы. Там нейкі час трымалі ў лагеры, куды звезлі дзяцей з чатырох дзіцячых дамоў з усёй Беларусі. Пасля пагрузілі ў таварны цягнік і павязлі ў Нямеччыну. Перад адпраўкай у дзяцей перапісвалі імёны. Рыме зноў сказалі, што яе імя "не падходзіць" і запісалі Рытай...

Рыма Раманаўна памятае назвы гарадоў, дзе іх утрымлівалі ў Нямеччыне. Праўда, пасля не магла іх адшукаць на карце. Доўга ў пасляваенны час не магла даказаць, што была вывезена ў Нямеччыну. У спісах яе прозвішча не знаходзілі. Аднак пашчасціла знайсці сведкаў, тых, хто тады быў вывезены з ёю.

Старэйшых дзяцей накіравалі на працу да бауэраў. Малодшых спачатку ў лагеры трымалі асобна, а пасля пусцілі да дарослых. Там Рыма пазнаёмілася з "цёцяй Кацяй" са Смаленшчыны, якая яе даглядала. З ёю яна і вярнулася на Беларусь, пасля таго, як вясной 1945-га іх вызвалілі савецкія вайскоўцы.

### Вяртанне ў Слонім

У Любліне ўсіх, хто вяртаўся з Нямеччыны, правярала савецкая дзяржбяспека. Асабліва адзінокіх мужчын і жанчын. Таму "цёця Каця" і запісала пры праверцы Рыму сваёй дачкой. Заехалі на Смаленшчыну, дзе даведаліся, што маці "цёці Каці" памерла. Вярнуліся ў Баранавічы. Тут жанчына вырашыла аддаць дзяўчынку ў дзіцячы дом. Але Рыма памятала, што Баранавічы знаходзяцца недалёка ад Слоніма. Папрасіла, каб "цёця Каця" вывела яе на дарогу на Слонім. Тая ж купіла ёй білет і пасадзіла на цягнік. Так 11-гадовая Рыма вярнулася ў Слонім. Без бацькоў, без дому, без сродкаў на існаванне...

Аднак у Рымы ў Слоніме былі яе хросныя бацькі. Менавіта да іх яна і накіравалася, прыехаўшы ў горад. Сям'я Радзюкоў пакінула яе ў сябе і ў дзіцячы дом ужо не аддала. Паслалі вучыцца ў школу, якая ў той час працавала каля касцёла Святога Андрэя. Тут Рыма сустрэла Вольгу Пікелку, якая працавала настаўніцай пачатковых класаў.

У 1951 годзе Рыма Раманаўна закончыла 7 класаў. Трэба было зрабіць метрыку. У яе спыталі, дзе яна нарадзілася? А Рыма гэтага не ведала. Тады напісалі, што яна нарадзілася ў Слоніме ў 1937 годзе. Параілі ёй шукаць звесткі пра бацьку ў архівах.

### У пошуках сваёй біяграфіі

У 1951 годзе Рыма Раманаўна пайшла працаваць на фабрыку "Тэкстыльшчык". Была вучаніцай. Узялі яе толькі таму, што яна была сіратой (па дакументах ёй было толькі 14 гадоў).

Да 1953 года Рыма Самарская амаль нічога не ведала пра сваіх бацькоў. Радзюкі спрабавалі пісаць у розныя ўстановы адразу пасля вайны. Аднак адтуль патрабавалі паведаміць год і месца нараджэння бацькі Рымы, чаго яна не ведала. Нарэшце з архіва прыйшла даведка, што яе бацька прапаў без вестак на другі дзень вайны...

Рыма Раманаўна здолела знайсці і сваіх сваякоў, даведалася больш пра сваіх бацькоў і сябе. Даведалася, што нарадзілася яна не ў 1937-ым, а ў 1934 годзе. Знайшла нават свае даваенныя фотаздымкі. Але толькі ў 1977 г. Рыма Раманаўна Самарская змагла памяняць свае дакументы.

Яна гаворыць, што за ўсё сваё жыццё так і не атрымала дапамогі ад дзяржавы. Хаця б за загінуўшага бацьку-афіцэра. Кажа, што хацела атрымаць аднаразовую дапамогу, 15 мінімальных зарплат, якія выдаюцца дзецям-сіротам апошняй вайны. Але Рыме Раманаўне гавораць, што яна павінна даказаць, што яе бацькі загінулі ў час вайны. А дзе яна знойдзе сведку гібелі яе маці?..

Неаднойчы Рыма Самарская пакідала Слонім, выязджала ў Расію, Малдавію. Але кожны раз вярталася ў горад, які стаў для яе родным. Вельмі моцнай аказалася яго прыцягальная сіла.

**Сяргей ЁРШ**



*Удзельнікі першага злёту былых дзеддомаўцаў у Альбярціне ў 1959 годзе. Сядзяць (злева направа): Таццяна Хаева, Дзмітрый Супрун, Ева Байрашэўская, Барыс Канцэміраў. Стаяць: Рыма Самарская, Ніна Хаева*

# У чыстым полі

Ганна прачнулася на золку. Ужо хацела апранацца, каб дапамагчы маці ўправіцца па гаспадарцы ды потым бегчы на ферму, дзе шмат гадоў працавала ветэрынарным урачом. Але раптам успомніла, што сёння нікуды не трэба спяшацца. І ад успаміну гэтага сэрца напоўніла шчымлівае пачуццё, дзе перамяшаліся сум па працы і трывога, і слодыч чакання мацярынства. З сённяшняга дня Ганна Кудзелька была ў дэкрэтным водпуску. Запазнілася, ох запазнілася да яе мацярынскае шчасце. Як усё роўна ў глухую восень сонца раптам залье неба ясным блакітам, сагрэе зямлю цяплом. Добра ўсё гэта, радасна, але ... позна.

Ёй была наканавана адзінота. Пасля заканчэння інстытута Ганну Кудзелька прыслалі ў Вялікія Ніўкі. Не ферма тут была — комплекс. Ёй тут спадабалася. І яшчэ больш прырасла сэрцам да Ніўкаў, калі калгас выдзеліў кватэру — катэдж з усімі выгодамі. Тады яна і маці сюды забрала, бо тая адзінока каратала старасць у суседнім раёне. Хатка згніла, патрабавала рамонту, і таму старая была вельмі задаволена пераездам. Ды і недалёкі быў той пераезд, бо жылі яны на мяжы раёнаў.

Не сказаць, каб брыдкай Ганна была дзеўкай ці якой няўдаліцай. Не. І працавітая, і да людзей уважлівая. Работу сваю любіла і за гэта мела пашану.

Знешнасць таксама мела вабную: чорныя бровы, густыя і цёмныя, як воранава крыло, валасы. А вочы — нібы памытыя ранішняй расой чарнаслівы. Як сядзіць — залюбуешся. А ўстане ісці — і сэрца сціскае жаль: адна нага ў дзяўчыны была карацейшай за другую. Некалі, яшчэ ў дзяцінстве, як быў жывы бацька, узяў яе з сабой па сена на далёкі луг. Спужаўся конь, панёс. Яны пападалі з воза, і яна зламала нагу. Ды такі складаны пералом, што дактары, колькі не стараліся, а вылечыць як след не змаглі. Засталася дзяўчына на ўсё жыццё калекай. Ад таго расла адзінокай і замкнутай. Не хадзіла ні на танцы, ні на дзявочыя пасядушкі. А калі які хлопец загаворыць, уцякала, не верыла, што нехта можа пакахаць яе, калеку.

Між тым гады ляцелі, як ляцяць у верасні з дрэў лісце. Ужо першая сівізна пачала з'яўляцца на скронях. А калі пераваліла за трыццаць пяць, заатэхнік Марына неяк шапнула ёй:

— Радзіць табе трэба, Сяргееўна.

— Як? — недарэчна спытала тая, бо адразу не дайшоў да свядомасці сэнс такой дзіўнай прапановы.

— Проста, як усе бабы родзяць. Сыночна будзеш мець ці дачушку. Жыццё пойдзе весялей, будзеш ведаць, дзеля каго жывеш.

— Выдумляеш невядома што, — адмахнулася Ганна. Але з таго моманту страціла яна спакой. І ў бяссонныя ночы, абліваючыся слязамі, яна марыла пра маленькую родную істоту. Нерастрачаная любоў, здаецца, не ўмяшчалася ў сэрцы. І ёй ужо чуўся плач немаўляткі, мроілася, як шыю абдымаюць цёплыя родныя ручкі.

— Ды мяне ж маці поедам заесць. А людзі што скажуць? — прыходзіла разважлівая думка.

— Ды няхай кажуць, што хочуць. Што людзі? Кожны жыве, як умее. А ў мяне вось памрэ маці, і застануся на белым свеце адна-адзінюткая, — адсоўвала гэтую думку другая. — Праўду кажа Марына, праўду.

Аб сваёй цяжарнасці яна не сказала нікому. Насіла ў сабе гэта шчасце, песціла яго, а адкрыцца каму-небудзь баялася. І асабліва маці, бо ведала яе, добра ведала. Ды хіба ж ад маці што-небудзь схаваеш?

— Чаго гэта ты, дзеўка, у твары збялела? — аднойчы за сняданнем, сыплючы ў міску варaную бульбу, спытала старая. — Ці не захварэла часам? І кругі чорныя пад вачамі, як падковы.

— Здаровая я, адмахнулася Ганна. — Проста работы цяпер шмат: ацёлы на комплексе.

— Ці не цяжарная ты?! — спытала маці, нібы ў лоб выстраліла. — Не прасі Бога, блудніца. Пракляну!

— Ну і праклінай, праклінай! — Ганна кінула на стол лыжку. — Не баюся я тваіх праклёнаў. І нічога цяпер не баюся. Ты ўгадала, цяжарная я. І нараджу дзіцятка, каб было пры кім век дажываць. Табе хіба добра было б цяпер адной, каб не я. А так жывеш палюдску.

Ганна заплакала. Закрыўшы твар рукамі, яна сціснулася ў камячок, нібы чакаючы, што маці зноў будзе хвастаць брыдкімі абразлівымі словамі. Але старая маўчала.

Маўчала яна і тады, калі Ганна позна вечарам вярнулася з фермы. Магла б і раней прыйсці, але не хацелася трапляць маці на вочы, слухаць яе пропаведзі. Але старая па-ранейшаму маўчала. А назаўтра перад абедам Марына, каб не чулі даяркі, шапнула ёй на вуха:

— Маці твая, Сяргееўна, у сельмагу паркаль белы купляла. Шмат. Напэўна гэта не так сабе, — і падміргнула ёй блакітнымі вачыма.

Так адбылося прымірэнне. З гэтага часу яны ўжо ўдзвюх жылі чаканнем і трывогай: хоць бы ўсё добра было. Гады ж у Ганны не маладыя.

— Я ўсё вытрымаю, абы толькі дзіцятка нарадзілася здаровае, — падбадзёрвала сябе і маці жанчына. — Ніякі боль мне не страшны, ніякія цяжкасці.

Вясковыя кабеты, насуперак звычаям, успрынялі Ганніну цяжарнасць з разуменнем.

— Малайчына, дай табе Бог здароўечка, — хораша ўсміхаючыся, сказала вясковы аўтарытэт баба Стэпка, калі Ганна лячыла яе карову. — Няхай бы дачушка нарадзілася, памочніца.

— Хто ўжо будзе, — з удзячнасцю глянула Ганна на добрую бабульку.

Увесь свой першы дэкрэтны дзень яна шыла для малыша распашоначкі, а маці, прытуліўшыся ля цёплай батарэі, вязала маленькія, з паўдалоні, шкарпэтачкі.

— Неяк хутка час прайшоў, а я думала, што сумаваць буду ў тым дэкрэце, — прызналася Ганна.

— За працай ніколі сумна не бывае, — заўважыла маці. — А заўтра вось парсюка заколем, работы хопіць на некалькі дзён. Пакуль усё ўпарадкуем, каўбасы паробім.

— Ой, мамка, — раптам спахапілася Ганна. — Я ж зусім забылася. Мне трэба хуценька на комплекс схадзіць. Там Пецька Крукоўскі абяцаў бензіну прывезці, каб парсюка асмаліць. Пайду.

— Ідзі, — згадзілася старая. — Каністрачку ў кладоўцы вазьмі капронавую. Колькі таго бензіну трэба.

Ганна абула цёплыя боты, бо на двары стаяў снежань, апранулася і пайшла ў кладоўку.

— Мама, — прыадчыніўшы дзверы ў хату, неўзабаве паклікала з сяней. — Нешта я не знайду затычкі ад той каністрачкі. Ты не бачыла?

— Вазьмі вунь у кошыку сырую бульбіну і заткнеш ёй. Мы некалі так бутэлькі з керасінам затыкалі. Бензін таксама не будзе выпарацца.

Пакуль на комплексе пагаманіла з даяркамі, дачакалася таго Пецьку з бензінам, на двары добра сцямнела. Яна заткнула каністрачку бульбінай і, махнуўшы жанчынам на развітанне рукой, пакрочыла ў бок вёскі. Дарога была недалёкая, мо з які кіламетр, і Ганна не спяшалася.

Бралася на марозік. У паветры паволі кружылі маленькія парашуцікі сняжынак. Нібы адчуўшы радасны настрой маці, у жываце дало аб сабе знаць маладое жыццё.

— Неўзабаве і ты сваімі вочкамі ўбачыш гэты цудоўны свет, — звяртаючыся да сваёй яшчэ не народжанай крывіначкі, шаптала Ганна. — І на саначках зімой, як падрасцеш, будзеш катацца, і ў лес па грыбы з табой будзем хадзіць. Усё будзе, мой родненькі, абы толькі нарадзіць цябе здаровенькага ды моцнага. І шчасце маё тады будзе вялікае-вялікае, як гэта зорнае неба над галавой.

Раптам вечаровую цемру прарэзалі агні аўтамабільных фараў. Ганна ўбачыла, што яе даганяе нейкая машына. Саступіла ў снег, каб перачакаць. Але параўняўшыся з ёй, машына спынілася. Гэта быў "казёл", на якім заўсёды ездзіў брыгадзір Сымон Буркоўскі.

— Сядай, Сяргееўна, падвязу, — адчыніўшы дзверцы, прапанаваў ён.

Сыта зарагатаў, калі яна ўжо ўладкавалася на сядзенні, паставіўшы ля ног каністрачку з бензінам. І ад гэтага рогату, ад слоў Сымона на яе павеяла нечым брыдкім, агідным. Па салоне паплыў пах перагару.

— Дык ён жа п'яны! — з трывогай адзначыла Ганна. — І трэба было мне садзіцца, — ужо дакарала сябе.

Нечакана Сымон звярнуў з дарогі і паімчаў па чыстым полі, па схаванай пад неглыбокім снегам руні.

— Ты куды? — устрывожылася Ганна.

— Ды, лічы, і прыехалі, — зноў сыта зарагатаў, выключыў матор. — Я думаю, ты мне не адмовіш.

— У чым?! — ужо здагадваючыся пра дзікунства, якое ён задумаў, закрычала ўголас.

— У тым самым, у чым некаму іншаму не адмовіла. Радзіць во надумала, а мужа ў цябе няма.

— А табе што да гэтага? — спалоханая Ганна хацела выскачыць з машыны, але яе моцна абшчаперылі дужыя бессаромныя рукі.

Яна абаранялася з усіх сіл. Але якія там былі сілы, калі ад страху перахапіла дыханне, калі ў вачах мітусіліся рознакаляровыя кругі.

Пачула моцны пах бензіну.

— Каністрачка ўпала і бульбяная затычка адляцела. Увесь бензін выльецца, — міжволі адзначыла скрозь боль. А ён быў жудасным, гэты боль. Здавалася, што нехта гарачымі абцугамі рве жывот.

— Можаш ісці, — выпусціўшы Ганну, дыхнуў перагарам Сымон. — Увесь твар мне падрала, кошка дзікая. — Ён брыдка вылаяўся.

— Звер, — прастагнала яна.

Паволі выбраўшыся з машыны, жанчына адчула, што сцякае крывёю. Па шашы ля вёскі праносіліся машыны, свяціліся агеньчыкі. Але яна ўжо не ведала, агеньчыкі гэта ад фар, ці мігатлівыя кругі ў вачах. То з'яўляюцца, то знікаюць зноў. І яна ішла да той шашы, да вёскі, аж пакуль не ўпала ніцма ў свежы пухкі снег.

Калі Ганна выбралася з машыны, Сымон дастаў з кішэні дублёнкі пачак цыгарэт. Але запалкаў не было. Ён лапаў па кішэнях нібы задубянелымі рукамі. Алкаголь разабраў на поўную сілу. Вельмі хацелася курыць. Запалкі аказаліся ў пінжаку. Ён чыркнуў аб карабок і ўскрыкнуў немым голасам. Полымя ўраз ахапіла ўсю машыну, ударыла ў твар, у вочы.

— Бензін загарэўся, — трацячы прытомнасць, здагадалася Ганна. — Дрэнная затычка атрымалася з бульбіны...

Пажар у чыстым зімовым полі заўважыў міліцэйскі патруль, які праязджаў па шашы. Не марудзячы, хлопцы адразу паімчалі на агонь. Пад'язджаючы бліжэй, убачылі, як па полі жывым факелам носіцца чалавек. То падае на зямлю, спрабуючы патушыць агонь на вопратцы, то зноў устае і бяжыць. П'яны Сымон Буркоўскі не дадумаўся скінуць з сябе вопратку. Небяспека крыху выветрыла хмель, прыдала сілы. Але зняць дублёнку не здагадаўся. І яна смылела, дымела, шугалі полымем аблітыя бензінам боты.

У агні пажару адзін з міліцыянераў раптам убачыў распасцёртую на зямлі постаць жанчыны. Ля яе ног сабралася цёмная лужына крыві.

...У бальніцу іх даставілі разам. А ў вёску вярталіся паасобку. Сымон праз чатыры дні ў труне, бо не вытрымаў болю ад страшных апёкаў. А Ганна праз паўтара месяца. Без сваёй доўгачаканай крывіначкі, без надзеі і нават без жадання жыць.

А яшчэ праз паўгода, пахаваўшы маці, якая пасля такога здарэння не ўстала з пасцелі, Ганна здала калгасу дом і паехала ў Брэст да цёткі.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**


Малюнак Яўгена ІВАНОВА

ДЭБЮТ

## Вольга КРОТ

Вольга нарадзілася ў 1984 годзе ў вёсцы Жыровічы. Відаць, гэтыя цудоўныя мясціны на Слонімшчыне не ў апошнюю чаргу паспрыялі адчуванню прыгажосці роднага краю, якую дзяўчынка паспрабавала перадаць у сваіх вершах. Цяпер яна ўжо вучаніца 11 класа Жыровіцкай СШ, вельмі захапляецца літаратурай, у вольны час любіць займацца рукадзеллем. У вершах Вольгі, кажучы словамі паэта, перавеважаюць "вобразы мілыя роднага краю".



### Радзіма

*Люблю старонку родную,*
*Лясы, палі, лугі.*
*Люблю любоўю добраю,*
*Як любяць салаўі,*
*І сонца промні светлыя,*
*І ясную зару,*
*І ветру свежасць ранюю,*
*І дзённую пару.*
*Люблю Радзіму светлую,*
*Без гора, без бяды,*
*Калі цвітуць палеткі*
*І шалясцяць сады.*

### Незнаёмец

*Незнаёмец-прыгажун,*
*Ты — нібыта зоркі,*
*Ты — нібыта месяц той,*
*Што ўзыходзіць над гарой,*
*Ты — як добры чараўнік,*
*Што здзяйсняе мары,*
*Той, хто будзе для мяне*
*Любым і каханым.*

### Мяцеліца

*Мяцеліца, мяцеліца*
*Усё круціцца і сцелецца,*
*І дываном кладзецца*
*На дрэвы і кусты.*
*І так прыгожа беліца*
*Усё вакол тады.*
*Сняжынкі-прыгажуні,*
*Сабраўшыся у рад,*
*Дзівоснымі вянкамі*
*Упрыгожылі ўвесь сад.*

Янка КАРПОВІЧ

### Па матывах "Паланеза"

*На таемным чоўне*
*Выплывае вечар,*
*Музыкай чароўнай*
*Поўніць сэрца вецер.*
*Салаўінай песняй,*
*Жураўліным жалем*
*Аддаецца ў сэрцы*
*Паланез адчаю...*

### А на сэрцы — смутак

*Шчасце, як маланка,*
*Успыхнула і згасла,*
*Сонца толькі зранку*
*Засвяціла ясна.*

*Шчасце адляцела*
*У вырай ранняй птушкай,*
*Поле апусцела,*
*Як дарогі-стужкі.*

*Восень жоўціць травы,*
*Навявае смутак,*
*Робіць свае справы*
*На здзіўленне хутка.*

*Чырвань заіграла*
*У клёнах ды рабінах,*
*І цяпла не стала*
*На абшарах мілых.*

*Гучна з паднябесся*
*Журавы крычалі,*
*Край са смутнай песняй,*
*З жалем пакідалі...*

*Восень, мая восень,*
*Адкажы, нарэшце,*
*Ці убачу просінь*
*Я на гэтым свеце?*

Мікола КАНАНОВІЧ

### Новы век

**1**

*Набліжаецца новы век,*
*тэхнакратычны тройчы,*
*калі чалавек*
*ад сябе яшчэ далей збочыць.*
*А, можа, наблізіць скон*
*цывілізацыі войнаў*
*ці, як калісьці, зноў*
*у Век Залаты свой зойдзе?..*
*Непрадказальнасць слоў*
*тлумачыцца перспектывай*
*пачаць спачатку, наноў,*
*як з новай*
*пачаць жанчынай.*

**2**

*Век адыходзіць.*
*Пакідае думаць:*
*Край, мова, людскі лад?..*
*Праблемы нам застаюцца,*
*што й былі, пра сутнасць*
*жабрачай нашай,*
*вычварнай дылемы.*
*Замест сябе —*
*гаспадароў шукаем,*
*на каўбасу*
*мяняючы святыні,*
*але ні іх, ні каўбасы*
*не маем,*
*бо падманулі зноў*
*усё тыя ж злыдні.*
*А мы?..*
*Мы множымся*
*на "нашых", "вашых",*
*на тых, другіх,*
*але сябе не знаем.*
*Мо прыйдзе час,*
*што на магілах нашых*
*нам на Дзяды чужак*
*паспагадае?..*

***

На Беларусі пчолы, як гусі
*(З народнага)*

*Адсвяткавалі. Заўтра*
*будзень зноў.*
*І ў гэты будзень будзе*
*мала грошай,*
*А ў некага паболее даўгоў...*
*— Спі, мой харошы!*

*На працы цяжка*
*пасля святаў так,*
*Як быццам свята —*
*горшае за працу.*
*— Ты не пакутуй,*
*уключы, дзівак,*
*Апахмялятар —*
*гэтак раяць знаўцы.*

*То вымагае зноў выдаткаў,*
*што ж,*
*Калі няма —*
*лічыць не будзеш грошы.*
*Ці тысячу ты вінен,*
*а ці больш?! —*
*Пазыч, харошы.*

*Ты кажаш, што*
*разменьваеш жыццё? —*
*А калі й гэтак,*
*То што наогул зменіцца*
*з таго?..*
*Гуляй ад дзетак,*

*Гуляй ад жонкі, ад сям'і,*
*Гуляй ад злосці.*
*Пакуль яшчэ піць*
*можаш — пі!*
*Ад маладосці.*

*А пасталееш, будзеш піць,*
*Пакуль не спрахнеш,*
*Ужо ад таго,*
*што ўсё баліць*
*І сіл не маеш.*

*Пі, братка*
*талерантны мой,*
*Пі, беларусе!*
*Хай пралятаюць над табой*
*Пчолы, як гусі...*

Ян ДАНУТА

### Дыялогі

*Бясконцасцю калідорных фондаў*
*гуляе Маэстра — хаўрус інстынктаў,*
*як дэкарацыя дзіва наймітаў*
*веры, са звыклым жабрацтвам торсаў...*
*Калі Ніцшэ з ягоным: "Я адцвіло..." —*
*восень там, дзе ўнутры свая барыкада*
*з модным накрэсам эпохі заняпаду*
*акцэнтуе ступені ў канвойнае шкло...*
*І толькі моўкнасць, што вартая жалю,*
*і толькі попел, шлюбны попел балю,*
*зноў для жыцця —*
*спеў, Арфей, дыялогі...*

Алена РЖЭУСКАЯ

### Слонімскія масты

*Мы крочым зноў цераз масты,*
*Сабой п'яныя — я і ты,*
*І кужаль вытанчаных слоў*
*Кладзецца ў ложак туманоў.*

*А водар стогадовых ліп*
*І Шчары нечаканы ўсхліп,*
*Бы падарунак летніх сноў,*
*У скарбонку кожны ўзяць гатоў.*

*Плывуць аблокаў ланцужкі,*
*Цалуе месяц берагі,*
*І цені закаханых зноў*
*Запіша летапіс мастоў.*

### Папараць-кветка

*Дай, дзяўчо, далоньку*
*Хлопцу маладому,*
*То Іван Купала*
*Кліча цябе з дому.*

*Марамі вяночкі*
*Паплывуць па Шчары,*
*Зацвіце зноў кветка*
*У лясным гушчары.*

*Таямніча сцежка*
*Вас абодвух маніць,*
*А у лесе водар*
*Галаву дурманіць.*

*Шчасце адшукайце*
*З тою чырвань-кветкай.*
*На вяселлі вашым*
*Месяц будзе сведкай.*

Лилия ПРУДНИКОВА

### О вере человеческой

*Полоска света из-под двери*
*Слепит уставшие глаза.*
*Вот так и мы: во что-то верим*
*И дружно голосуем "за",*
*И видим выход из тумана,*
*И продолжение пути,*
*Но... без банального обмана*
*Не можем никуда идти.*
*Мы ждём решений и ответов,*
*Мы верим — правда победит...*
*И узенькой полоской света*
*Нам вера вновь глаза слепит.*

### Мужская любовь

*Всё было буднично и просто.*
*Не так, как в книгах и кино.*
*И боль была не очень острой —*
*Как будто так и быть должно.*
*Я строила навечно, прочно,*
*Без недоделок на потом...*
*Но той давно прошедшей ночью*
*Весь в щелях оказался дом.*
*Расшатан был моей любовью,*
*Осенним залит был дождём,*
*Но я не стала утром снова*
*Все дыры конопатить в нём.*
*Сказала я тебе спасибо*
*За уголок твоей души,*
*Что ты, ненужной и немилой,*
*Его однажды дать решил.*
*За то, что было невозможным,*
*А я поверила, взяла...*
*За то, что очень осторожно*
*Вернул на землю ты меня.*

### Третье тысячелетие

*Они поют, играют, мастерят,*
*Из пластилина человечков лепят...*
*Я захожу не просто в детский сад,*
*Я в третье захожу тысячелетье.*
*Ему ещё — скакалки и мячи,*
*Но всемогущею рукою сможет*
*Оно само цунами приручить,*
*Само землетрясение стреножить.*
*Своей Вселенной голубые окна*
*Раскрыть на зов сверхдальних позывных.*
*...Прекрасный дом,*
*высотный-превысотный,*
*Растит малыш из кубиков цветных.*

Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ

## І шэпчуць кветкі таямніча, што свет ПАЎНЮТКІ ПРЫГАЖОСЦІ...

*Эцюд*

Сонца цёплай рукой дакранулася да пушыстых галовак Півоняў:

— Прачынайцеся, прачынайцеся, прамыйце расой свае вочкі і паглядзіце, якая цудоўная сёння раніца! Яна хоча палюбавацца вамі і пайсці адпачываць, уступіўшы месца дню.

Падуладныя сонечнай ласцы, Півоні гойдалі на сваіх дзіўных духмяных пялёстках рознакаляровыя пацеркі расы, адкрывалі ружовыя і белыя храмы кветак.

— І што за соні гэтыя Півоні! — грэбліва страсянулі кучаравымі галоўкамі Белыя Маргарыткі. — Кожную раніцу іх трэба будзіць. А калі няма сонца, то спяць сабе, згарнуўшы пялёсткі, ледзь не да самага палудня.

— І не кажыце, сястрыцы, — падтрымалі іх Бардовыя Маргарыткі. — Няхай бы з нас прыклад бралі. Мы хоць і маленькія, аднак цвіцём і днём, і ноччу. Усе кветкі, што растуць у агародчыку, пацвердзяць гэта.

— Да чаго ж не люблю хвалькоў! — ганарыста варухнула пялёсткамі прыгажуня – Ружа, што вілася сцяблінамі па зялёнай металічнай лесвіцы ледзь не да самай страхі. — Калі ўжо каму тут і можна выхваляцца, дык гэта мне, бо на мяне ўсе найперш звяртаюць увагу, усе мяне любяць.

Півоні і Маргарыткі прысаромлена маўчалі, а Ружа, купчыхай разваліўшыся на сваёй лесвіцы, працягвала далей:

— Вас усіх тут па аднаму сорту, а мяне — цэлых тры: пляцістая, паўпляцістая, клемацысы.


Фота Віталя ГІЛЯ

Да таго ж, мяне выпісалі з самой Латвіі, так што ў маіх сцяблінах цячэ высакародны прыбалтыйскі сок.

Прыгрэўшыся на сонцы і прытаміўшыся ад сваёй балбатні, Ружа задрамала, а маленькія Маргарыткі, вылезшы праз плот на вуліцу, смела пазіралі навокал.

— Вас там машыны не падушаць, прахожыя не затопчуць? — заклапочана прамовіў малады тоўсты Гладыёлус.

— Нічога нам не станецца, — заспакоілі яго Маргарыткі. — Не першы дзень тут расцём. Ды і абгароджаны мы акуратным бардзюрчыкам.

— Ваша праўда, — зашапацелі вострым лісцем Нарцысы. — Такіх дбайных і акуратных гаспадароў, як у вас, пашукаць трэба. Тут усё адно да аднаго. І мы як след дагледжаны, сядзім на чыстых прыгожых градках, і вакол — узорны парадак.

— У нашых гаспадароў і ў доме чысціня і ўтульнасць, — зручней умасціўшыся на лесвіцы, прамовіла Ружа. — Я тут высока сяджу, праз акно ўсё бачу.

— Добрыя ў нас гаспадары, што й казаць, — падтрымалі Маргарыткі. — Дасціпныя, працавітыя. Гэта іх заслуга ў тым, што хто ні ідзе па вуліцы, усе на нас любуюцца...

Разгараўся летні дзень. Разамлелыя ад гарачыні, кветкі драмалі ў чаканні вячэрняй прахалоды. Вечарам гаспадары напаяць іх вадой, праверацць, ці не вылазіць дзе з зямлі пустазелле.

А потым зноў кветкі прыме ў свае абдымкі ноч. І яны ўбачаць неба ў залацістых маргарытках зорачак з вялікім цюльпанам месяца і яшчэ раз пераканаюцца, што свет паўнюткі прыгажосці.

